№32 верасень 2013

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

# Ці павінен настаўнік працавацць у суботу?

**Пытанне: Я працую настаўнікам з тыднёвай нагрузкай 22 гадзіны, якую выканала на працягу пяці дзён тыдня. У суботу я прыцягвалася да пазашкольнага мерапрыемства з дзецьмі ў аб'ёме 3-х гадзін. Ці павінны за гэты дзень плаціць альбо даваць адгул?**

Падставай для напісання артыкула паслужыў леташні канфлікт «мясцовага маштабу» ў школе, дзе я працую. Пытанне тычылася працы настаўніка-прадметніка ў суботні дзень.

Што ж такое суботні дзень у школе? Разбярэмся, ці з'яўляецца ён законным працоўным днём настаўніка – а калі з'яўляецца, то ў якіх выпадках?

Першае, на што варта звярнуць увагу: у працоўных кантрактах (часцей за ўсё, а можа быць і абсалютна ва ўсіх) у любога школьнага настаўніка адзін выхадны дзень (нядзеля). Ці значыць гэта, што настаўнікі павінны працаваць у суботу?

Пачнем разбірацца.

На сайце Мінскага абласнога камітэта Беларускага прафсаюза працаўнікоў адукацыі і навукі апублікаваны адказ на наступнае пытанне:

**Пытанне:** *Я працую настаўнікам з тыднёвай нагрузкай 22 гадзіны, якую выканала на працягу пяці дзён тыдня. У суботу я прыцягвалася да пазашкольнага мерапрыемства з дзецьмі ў аб'ёме 3-х гадзін. Ці павінны за гэты дзень плаціць альбо даваць адгул?*

**Адказ:** Згодна з артыкулам 158 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі адукацыйны працэс ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі арганізуецца ў рэжыме шасцідзённага школьнага тыдня, які ўключае пяцідзённы навучальны тыдзень і адзін дзень тыдня для правядзення з навучэнцамі спартова-масавых, фізкультурна-аздараўленчых, іншых выхаваўчых мерапрыемстваў. На працягу шасцідзённага працоўнага тыдня настаўнікі выконваюць педагагічную нагрузку, а таксама іншую педагагічную працу згодна са службовымі абавязкамі і ў межах прызначанай скарочанай



працягласці працоўнага часу, якая не перавышае 36 гадзін на тыдзень. Пры гэтым аплаце падлягае прызначаная педагагічная нагрузка (у вашым выпадку – 22 гадзіны на тыдзень). За працу настаўніка ў суботу дадатковая аплата і другі дзень адпачынку не прадастаўляюцца. Падстава: ліст міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 13.01.2012 года № 11-02-13/7317/дс.

Атрымліваем, што настаўнік павінен працаваць бясплатна. Пры ўсім пры гэтым артыкул 57 Працоўнага кодэкса РБ кажа пра наступнае азначэнне заработнай платы:

**Артыкул 57. Заработная плата**

Заработная плата – узнагароджанне за працу, якую наймальнік абавязаны выплаціць працаўніку за выкананую працу ў залежнасці ад яе складанасці, колькасці, якасці, умоў працы і кваліфікацыі працаўніка з улікам фактычна адпрацаванага часу, а таксама за перыяды, якія ўключаюцца ў працоўны час.

Працей кажучы, любая праца павінна быць аплачванай (пагатоў, што гэты артыкул

РЭГІЁНЫ

## Агляд рэгіянальнай прэсы

**У Баранавічах некаторыя настаўнікі лаяльней ацэньваюць веды тых, хто харчуецца ў сталоўцы**

***Intex-press***

Саміх жа педагогаў за вялікі «ахоп харчаваннем» у класе адміністрацыя некаторых школ горада заахвочвае прэміямі.

– Мая калега з суседняй школы прыдумала крыху павышаць ацэнкі тым, хто згаджаецца харчавацца, – распавяла «IP» настаўніца, якая пажадала застацца невядомай. – Яна, вядома, хітрые трохі, бо на наступны дзень дае самастойную работу, і дзіця ўсё роўна атрымае ацэнку, якая адпавядае яго ведам.

**9 навучэнцаў і выпускнікоў бабруйскай школы атрымалі моўныя дыпломы міжнароднага ўзору**

***Вечерний Бобруйск***

У нямецкім горадзе Кёльне працуе арганізацыя «Цэнтральнае ўпраўленне школьнай адукацыяй за мяжой», прадстаўніцтва і філіялы якой ёсць ва ўсім свеце, у тым ліку ў Беларусі. Адна з бабруйскіх школ таксама супрацоўнічае з гэтым цэнтрам.

Як распавяла настаўнік нямецкай мовы 27-й школы Алена Сцяшэнка, мэтай супрацы з'яўляецца здача 9-класнікамі экзамену на атрыманне моўнага дыплома міжнароднага ўзору, які дае права вучыцца на падрыхтоўчых курсах пры паступленні ў ВНУ Германіі. «Да таго ж гэтай арганізацыяй аказваецца метадычная дапамога нашым настаўнікам, – расказвае Алена Генадзьеўна, – на доўгачасовае карыстанне даецца метадычная літаратура, навучальныя дапаможнікі».

**ЦІ ПАВІНЕН НАСТАЎНІК ПРАЦАВАЦЬ У СУБОТУ?**
**>> СТАР. 1-2**

**У НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД З АКТЫЎНАЙ АЦЭНКАЙ**
**>>> СТАР. 4**

Актуальна

# Ці павінен настаўнік працаваць у суботу?

тычыцца ўсіх наймальнікаў любой формы ўласнасці)! Акрамя таго, прыведзенае вышэй пытанне мае на ўвазе звышурочную працу, а тады пачынаюць дзейнічаць іншыя артыкулы Працоўнага кодэкса:

**Артыкул 119. Звышурочная праца**

Звышурочнай лічыцца праца, выкананая працаўніком на прапанову, распараджэнне альбо з ведаму наймальніка звыш прызначанай для яго працягласці працоўнага часу, прадугледжанай правіламі ўнутранага працоўнага распарадку альбо графікам зменнасці.

Не прызнаецца звышурочнай праца, выкананая звыш прызначанай працягласці працоўнага часу:

1) з ініцыятывы самога працаўніка без прапановы, распараджэння альбо ведаму наймальніка;

2) працаўнікамі з няпоўным працоўным часам у межах поўнага працоўнага дня (змены);

3) працаўнікамі па сумяшчальніцтве ў таго ж наймальніка пры выкананні іншай функцыі, а таксама ў іншага наймальніка звыш часу асноўнай працы;

4) працаўнікамі-надомнікамі.

**Артыкул 69. Аплата за працу ў звышурочны час, у дзяржаўныя святы, святочныя і выходныя дні**

Кожная гадзіна працы ў звышурочны час аплачваецца:

1) працаўнікам са здзельнай аплатай працы – не ніжэй за падвойныя здзельныя расцэнкі;

2) працаўнікам з пагадзіннай аплатай працы, а таксама тым, якія атрымліваюць службовыя аклады, – не ніжэй за падвойныя гадзінныя тарыфныя стаўкі (аклады).

Па дамоўленасці з наймальнікам працаўніку за працу ў звышурочны час можа давацца іншы дзень адпачынку.

Праца ў дзяржаўныя святы, святочныя (частка першая артыкула 147) і выходныя дні аплачваецца не ніжэй чым у падвойным памеры згодна з правіламі часткі першай гэтага артыкула. Пры гэтым для працаўнікоў, якія атрымліваюць месячны аклад, аплата ажыццяўляецца ў памеры не ніжэй за адзінарную гадзінную тарыфную стаўку (аклад) звыш месячнага акладу, калі праца выраблялася ў межах месячнай нормы працоўнага часу, і ў памеры не ніжэй за падвойную гадзінную тарыфную стаўку (аклад) звыш месячнага акладу, калі праца выраблялася звыш месячнай нормы.

За працу ў звышурочны час, у дзяржаўныя святы, святочныя (частка першая артыкула 147) і выходныя дні прэміі налічваюцца на заробак паводле адзінарных здзельных расцэнак ці на адзінарную тарыфную стаўку.

Разбярэмся, што ж з'яўляецца працоўным часам наогул і працоўным часам настаўніка ў прыватнасці. Працоўны кодэкс дае наступнае азначэнне працоўнага часу.

Артыкул 110. Працоўны час і яго нармаванне

Працоўным лічыцца час, на працягу якога працаўнік у адпаведнасці з працоўнай, калектыўнай дамовамі, правіламі ўнутранага працоўнага распарадку абавязаны знаходзіцца на працоўным месцы і выконваць свае працоўныя абавязкі.

Пастанова Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 05.09.2011 № 255 «Аб прызначэнні скарочанай працягласці працоўнага часу асобным катэгорыям педагагічных працаўнікоў» канкрэтызуе лімітавую працягласць працоўнага часу настаўніка: 36 гадзін на тыдзень. Пры гэтым:

«Працягласць працоўнага часу настаўнікаў пры выкананні службовых абавязкаў, вызначаных кваліфікацыйнымі характарыстыкамі па адпаведных пасадах, зацверджанымі ў прызначаным парадку, складаецца з нармаванай і ненармаванай частак працоўнага часу.» Нармаваная частка працоўнага тыдня выконваецца педагагічнымі працаўнікамі згодна са службовымі абавязкамі.

Калі настаўнік-прадметнік не мае класнага кіраўніцтва, ці павінен ён праводзіць выхаваўчыя мерапрыемствы ў суботні дзень? Адназначна, не, паколькі настаўнік-прадметнік павінен праводзіць толькі свае заняткі ў межах адведзеных гадзін на іх правядзенне, метадычную працу і праверку сшыткаў (дадатковы кантроль). А выхаваўчая праца з'яўляецца прэрагатывай класнага кіраўніка (у аб'ёме да 5 гадзін на тыдзень). Галоўнае , каб класны кіраўнік не выпрацаваў сваю норму да суботы (што практычна немагчыма). Таму, калі Вы, як класны кіраўнік, адпрацавалі свой «выхаваўчы» час – маеце права цалкам адмовіцца ад працы ў суботні дзень, паколькі яна пяройдзе ў разрад звышурочнай.

Арганізацыйна–выхаваўчая праца ва ўстановах адукацыі ажыццяўляецца за межамі часу, які адводзіцца на правядзенне навучальных заняткаў, у тым ліку ў шосты школьны дзень, згодна з планамі ідэалагічнай і выхаваўчай працы (класа, групы, установы адукацыі) і ўключае наступныя віды працаў: класнае кіраўніцтва ці праца куратара навучальнай групы, індывідуальная і групавая праца з навучэнцамі, ідэалагічная, культурна-адукацыйная, фізкультурна-аздараўленчая, спартова-масавая праца, прапаганда і фармаванне здаровага ладу жыцця, арганізацыя грамадска карыснай дзейнасці, працоўнае выхаванне і прафарыентацыя, прафілактыка супрацьпраўных паводзін навучэнцаў, сацыяльна-педагагічная праца з вучнямі і іх бацькамі (Інструктыўна-метадычны ліст аб арганізацыі працы класнага кіраўніка ... ад 07.12.2009 № 12-01/295 дс).

Часта можна чуць ад кіраўнікоў некаторых навучальных устаноў, што праца настаўніка з'яўляецца ненармаванай. Аднак адказ Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама №6Л-07/128 ад 04.04.2012 года на мой запыт кажа гранічна ясна: «Праца настаўніка ў сярэдняй школе не з'яўляецца працай з ненармаваным працоўным днём». А вось як раз кіраўнікі і іх намеснікі з'яўляюцца працаўнікамі, якім прызначаецца ненармаваны працоўны дзень (Пастанова Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 18.03.2008 №408).

А як жа дзяржаўныя святы, спытаеце Вы? І прывядзеце прыклад 3 ліпеня (парад).

У законах нашай дзяржавы ёсць адказ і на гэтае пытанне (арт. 146 Працоўнага кодэкса РБ):

**Артыкул 146. Кампенсацыя за працу ў выходны дзень**

Праца ў выходны дзень можа кампенсавацца праз пагадненне бакоў прадастаўленнем іншага дня адпачынку альбо падвышанай аплатай у памеры, вызначанай часткамі трэцяй і чацвёртай артыкула 69 гэтага Кодэкса.

Калі прыцягненне да працы абавязкова для працаўніка (артыкул 143), але бакі не змаглі дамовіцца наконт формы кампенсацыі за працу ў выходны дзень, прадастаўляецца кампенсацыя ў выглядзе іншага дня адпачынку, калі іншае не прадугледжана ў калектыўнай дамове, пагадненні.

За кожную гадзіну працы ў выходны дзень даецца аплата ў памеры не ніжэй за адзінарную гадзінную тарыфную стаўку (аклад), калі праца выконвалася ў межах месячнай нормы працоўнага часу, а калі звыш месячнай нормы, то ў памеры не ніжэй за двайную гадзінную тарыфную стаўку працаўніка.

Калі праца ў выходны дзень кампенсуецца прадастаўленнем працаўніку іншага дня адпачынку, то аплата за гэты дзень даецца ў памеры дзённай стаўкі працаўніка. Заканадаўствам не вызначана, на працягу якога часу працаўніку за працу ў выходны дзень даецца дадатковы дзень адпачынку. Гэтае пытанне рэгулюецца правіламі ўнутранага працоўнага распарадку, калектыўнай дамовай, загадам наймальніка, на падставе якога працаўніка прыцягваюць да працы ў выходны дзень (узята з метадычкі Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафесійнага саюза працаўнікоў адукацыі і навукі «Працоўны час і яго выкарыстанне»).

Прапановы даплатаў, прэмій і г.д. прымайце на сваё ўгледжанне. Калі Ваш час дазваляе працаваць звыш працоўнага часу – згаджайцеся. Тады парушэння закону не будзе. Высновы рабіць Вам, шаноўныя калегі !

Але не забывайце аддаваць вольны час сабе ;-)

*Яўген Лагуноў,*
*настаўнік інфарматыкі*

## Рэгіёны

### Колькі важыць навука?

***Брестская газета***

Паводле слоў спецыялістаў, запоўнены школьнымі прыладамі, падручнікамі і сшыткамі ранец не павінен перавышаць 15% вагі дзіцяці. Кожнаму ўзросту адпавядаюць свае гігіенічныя патрабаванні да напоўненага заплечніка.

Не сакрэт, што вучням даводзіцца насіць у школу падручнікі, сшыткі, альбомы, спартовую форму і многія іншыя патрэбныя для заняткаў рэчы. Што рабіць, калі ў ранцы толькі самае неабходнае, але яго вага ўсё роўна перавышае ўсе дапушчальныя межы? Медыкі раяць бацькам уздымаць гэтае пытанне на бацькоўскіх сходах і шукаць на яго адказ разам з настаўнікамі. Вядома, калі дзіця вучыцца ў пачатковай школе, вырашыць яго значна прасцей. Можна дамовіцца з педагогам, каб частка школьных прылад, непатрэбных вучню штодня, захоўвалася ў класе. Напрыклад, пластылін, фарбы, альбом для малявання і іншае.

Збольшага з прычыны празмернай вагі ранцаў у многіх краінах задумаліся пра забеспячэнне школьнікаў планшэтнымі камп'ютарамі па цане 100 – 200 долараў. Вага такіх «пігулак» не перавышае 700 – 800 г. У ЗША знайшлі яшчэ адзін альтэрнатыўны варыянт заплечніка – на колцах.

### У вучняў – вочы па яблыку! На экскурсіі па школьным музеі ў Залессі Глыбоцкім

***Вольнае Глыбокае***

Навучэнцы двух чацвёртых класаў Глыбоцкай СШ №3 у рамках урока «Мая радзіма – Беларусь» зрабілі цікавую вандроўку па Глыбоччыне, наведалі адзін з самых прыгожых яе куткоў – пагоркава-азёрную Залесчыну.

Былі ў Залескім парку, на Мамчынай Горцы, наведалі царкву Покрыва Прасвятой Багародзіцы ў Бушыках (да 1939 г. гэтая частка цяперашніх Бушыкаў была асобнай вёскай і мела назоў – Залессе Царкоўнае), а на заканчэнне завіталі ў гісторыка-этнаграфічны музей, што месціцца ў Залескай сярэдняй школе. Калі сказаць, што дзецям вельмі спадабалася экскурсія, то гэта будзе значыць – нічога не сказаць. Яны слухалі аповяды Рыгора Леанідавіча Шарыпкіна – раскрыўшы рот, а вочы ад здзіўлення – вобразна кажучы – былі па «яблыку». Вось так умее паднесці гісторыю Рыгор Леанідавіч, стваральнік гэтага ўнікальнага музея, і дарэчы не гісторык, а – выкладчык рускай мовы і літаратуры. Аднак гэтыя прадметы для яго ўсяго толькі – прафесія, беларускую ж мову ён папулярызуе праз краязнаўства і гісторыю сваёй Залесчыны.

### Школьнікі знаёміліся з горадам праз старыя назвы вуліц

***Газета Слонімская***

У Слоніме прайшло раённае турыстычнае краязнаўчае арыентаванне сярод старшакласнікаў.

У параўнанні з мінулымі падобнымі мерапрыемствамі, на гэты раз арганізатары вырашылі крыху ўскладніць заданні для школьнікаў. Адзінаццаці камандам неабходна было знайсці вуліцы і пікетоўцаў у пэўнай паслядоўнасці. Складанасць заключалася ў тым, што ў заданні былі пазначаны не сучасныя назвы вуліц, а старыя — некаторыя з вуліц Слоніма ў розныя перыяды часу мелі розныя назвы.

Стартавала мерапрыемства ў мінулую суботу каля краязнаўчага музея імя І.Стаброўскага. Пасля на працягу дзвюх гадзін вучні шукалі вуліцы Слоніма. У ходзе конкурсу паводле апісання ў маршрутным лісце ім трэба было знайсці дзесяць вуліц, якія знаходзяцца ў цэнтры горада.

### У Ганцавіцкім раёне настаўнікаў прымушаюць чытаць «правільную» прэсу

***Ганцавіцкі час***

У «ГЧ» паступілі некалькі скаргаў на прымусовую падпіску ад настаўнікаў розных школ раёна. Са словаў нашых чытачоў, адміністрацыя школ настойліва «рэкамендуе» сваім падначаленым выпісваць пэўныя газеты, хоць яны не абавязаны выконваць падобныя незаконныя рэкамендацыі кіраўніка.

Дырэктары некалькіх школ раёна адказалі карэспандэнту «ГЧ», што перасьледу і ціску на настаўнікаў няма. Бо дакумента, згодна з якім іх падначаленыя абавязаны выпісваць пэўныя выданні, не існуе. Якіх-небудзь санкцый за адмову ад падпіскі не прадугледжана.

Але ёсць такія кіраўнікі, якія патрабуюць прынесці квітанцыі да пэўнай даты месяца. Дырэктар СШ №3 Наталля Снытко інфармацыю пра тое, што ў іх установе «рэкамендуюць» выпісваць мясцовую альбо рэспубліканскую газету, пацвердзіла. Не абвергла яна і тое, што настаўнікі ў абавязковым парадку здаюць квітанцыі для справаздачы ў аддзел адукацыі.

Са словаў педагогаў, грошай на газеты не шкада. Проста незразумела, чаму чалавеку пастаянна штосьці навязваюць, чаму яго прымушаюць рабіць тое, што ён рабіць не абавязаны. Якія інфармацыйныя гадзіны можна правесці па газетах, у якіх «пішацца толькі тое, што дазваляюць, і толькі пра тое, як у нас усё добра»?

### Лучнікаўская сярэдняя школа адзначыць 145-годдзе

***Інфа-Кур'ер***

Першая згадка пра Лічнікаўскую школу адносіцца да 1868 года. Ва ўстанову прымаліся дзеці ва ўзросце ад сямі да дванаццаці гадоў. Іх навучалі чыстапісанню, арыфметыцы, прыродазнаўству і Закону Божаму. Навучанне было платным. Навучальны год у той час доўжыўся шэсць месяцаў: з кастрычніка па красавік.

### Беларускамоўныя класы: Гародня паднялася, Ліда правалілася

***Наша Слова***

Першы клас з беларускай мовай навучання адкрыўся сёлета ў школе № 34 Гародні. Вучняў у ім пяцёра. У гэтай жа школе ёсць і адзін трэці беларускамоўны клас – там тры вучні. У школе запэўнілі, што праблемаў з навучаннем у гэтых дзетак няма, бо ёсць і беларускія падручнікі, і добрыя настаўнікі.

У Лідзе сёлета адкрыўся толькі адзін першы беларускамоўны клас – у СШ №16. У класе 9 чалавек. Акрамя таго гэта клас з вывучэннем польскай мовы, як прадмета. Таму клас адразу пачалі называць беларуска-польскім.

### Маладзечанскі школьнік паехаў па праграме мабільнасці на год у нямецкую гімназію

***Рэгіянальная газета***

Арсеній Макей – пятнаццаты вучань маладзечанскай сярэдняй школы №5, які паехаў вучыцца ў Хайнберг-гімназію нямецкага горада Гётынген.

15-гадовы дзесяцікласнік паехаў вучыцца па праграме «Стыпендыят» фонду ўсходняй Еўропы і педагагічнай службы па абмене.

У праграме ўдзельнічаюць вучні 9 – 10 класаў. Калі немцы прыязджаюць у школу, яны пытаюцца, хто б хацеў паехаць да іх. Потым назіраюць, як ахвотныя вядуць сябе на занятках, размаўляюць з імі, прапануюць запоўніць анкету: «Чаму я хачу быць стыпендыятам».

З усіх выбіраюць аднаго і ўручаюць яму запрашэнне.

Арсеній даведаўся, што выбралі яго ў красавіку. Паехаў жа разам з нямецкай дэлегацыяй у верасні. Праводзіць яго прыйшоў увесь клас.

Дэлегацыя з Германіі прыедзе ў Беларусь праз год у верасні. У іх ужо ёсць дзве кандыдатуры сярод дзяўчат сярэдняй школы №5 на ўдзел у праграме ў наступным годзе. Каго з іх абяруць – будзе вядома толькі ў красавіку.

### Што дала Міншчыне рэформа адукацыі

***Борисовские новости***

Колькасць школьнікаў у Мінскай вобласці за мінулыя дзесяць гадоў зменшылася прыкладна на трацiну.

Калі ў 2003 годзе іх было 205,2 тысяч, то 1 верасня школьны парог пераступілі толькі 137,7 тысячы, з іх 14 тысяч пайшлі ў першы клас. У сувязі з пастаянным пагаршэннем дэмаграфічнай сітуацыі апошнія 10 гадоў у цэнтральным рэгіёне краіны 236 навучальных устаноў былі зачыненыя і 112 – рэарганізаваныя. Рэарганізацыя азначае, як правіла, перавод сярэдняй школы ў статус пачатковай, аб'яднанне школы і дзіцячага садка ў вучэбна-педагагічны комплекс.

Скарачэнне колькасці школ называецца ў афіцыйнай прэсе «аптымізацыяй». Крытэрыем «аптымізацыі» робіцца колькасць навучэнцаў у школе менш за 40 чалавек. Толькі ў 2013 годзе, па звестках Упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама, зачынілася 29 школ: 4 базавыя, 4 сярэднія, 12 вячэрніх, 6 вучэбна-педагагічных комплексаў «дзіцячы сад – сярэдняя школа», 3 міжшкольныя вучэбна-вытворчыя камбінаты.

Але, нягледзячы на гэта, а таксама на тое, што ў новым навучальным годзе ў школы Мінщчыны атрымалі накіраванне каля 800 маладых спецыялістаў, не вырашана праблема дэфіцыту педагогаў па цэлым шэрагу прадметаў, перш за ўсё – матэматыцы, фізіцы, хіміі і замежнай мове.

***ДАНУТА СТЭРНА:***

# У НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД З АКТЫЎНАЙ АЦЭНКАЙ




**З кастрычніка ТБШ распачынае чарговы курс дыстанцыйнага навучання стратэгіі актыўнай ацэнкі. Прапануем адказы нашага эксперта Данута Стэрны на частыя пытанні, якія ўзніклі ў настаўнікаў пры ўкараненні стратэгіі ў беларускай школе.**

**- Ці методыка Актыўнай ацэнкі дзейсная толькі падчас працы са слабымі вучнямі?**

**- Ці «НаШтоБуЗУ» абмяжоўвае мысленне дзяцей і іх крэатыўнасць?**

Гэтыя сумневы і выклікі актыўнай ацэнкі каментуе эксперт Цэнтра грамадзянскай адукацыі Данута Стэрна:

Падчас працы з вучнямі па методыцы актыўнай ацэнкі, сапраўды, працей заўважыць вынікі слабейшых вучняў. Так адбываецца таму, што паспяховаць гэтых вучняў знаходзіцца пад асаблівым наглядам настаўнікаў і бацькоў, а значыць, і вынікі заўважыць працей. Аднак, актыўная ацэнка – гэта такая стратэгія навучання, якая спрашчае вучням атрыманне ведаў і адкрыванне новых рашэнняў. Стымуляцыя вучня з'яўляецца роляй настаўніка. Актыўная ацэнка эфектыўная ў працы з кожным вучнем. Настаўнікам, якія баяцца абмежавання мацнейшых вучняў, я б прапанавала прымяненне некалькіх тэхнік, якія дапамагаюць у працы з вучнямі рознага узроўня падрыхтоўкі:

1. Паспрабуйце паставіць мэты ўрока разам з вучнямі так, каб сярод іх знайшліся мэты, адпаведныя для розных вучняў. Вы можаце на аснове мэтаў папрасіць вучняў прапанаваць «НаШтоБуЗУ».

2. Пастарайцеся дыферэнцыяваць «НаШтоБуЗУ» пад розныя мэты і магчымасці розных вучняў. Гэты можа быць базавае і паглыбленнае «НаШтоБуЗУ».

3. У працы з вучнямі, якія добра спраўляюцца з навукай, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на чацвёрты пункт зваротнай сувязі, каторы змяшчае падказкі, у якім кірунку вучань павінен развівацца далей (што ён можа дадаткова прачытаць альбо выканаць, як ён можа паглыбіць свае веды і дзе можа шукаць натхненне).

4. Уключыце больш паспяховых вучняў ў сяброўскую дапамогу. Супольная праца са слабейшымі вучнямі не толькі замацоўвае веды, але і дапамагае паглядзець на дадзеную тэму з іншай перспектывы, дапамагае развівацца і адным, і другім. Вядома, што найлепей чалавек вучыцца, калі тлумачыць нешта іншаму.

5. Задаючы дамашнюю работу, памятайце аб дыферынцыяванні заданняў і пакідайце магчымасць выбару. Гэтак кожны вучань будзе мець магчымасць выбраць заданне, адпаведнае ягоным здольнасцям і інтарэсам. Даванне вучням магчымасці выбару – лек ад розных настаўніцкіх балячак. Ён датычыць не толькі дамашняй работы, але і планавання ўрока з варыянтамі.

Мы заахвочваем вас дзяліцца настаўніцкімі думкамі на гэтую тэму. Настаўнікі з Польшчы з радасцю даведаюцца, як беларусы пераадольваюць гэтыя цяжкасці.

Зычу ўсім вучням і настаўнікам Беларусі плённай працы ў новым навучальным годзе!

*Данута Стэрна*

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для дапісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў

# АБВЕСТКІ

**Анлайн-вызначальнік птушак на беларускай мове**

З'явіўся першы анлайн-вызначальнік птушак на беларускай мове. З яго дапамогай можна даведацца, якія віды ёсць у Беларусі, разглядзець птушак на фотаздымках і нават паслухаць іх голас.
Электронны вызначальнік змяшчае інфармацыю пра ўсіх птушак Беларусі. Для кожнага віда дададзены апісанні, інфармацыя пра тое, дзе яны жывуць, якія будуюць гнёзды, калі іх можна пабачыць. Гэта першы электронны вызначальнік птушак поўнасцю на беларускай мове. Але ў ім змяшчаюцца назвы птушак таксама на англійскай, лацінкай і рускай мовах. Тэксты апісанняў узяты з папярэдняга вызначальніка «Птушкі Еўропы» пад рэдакцыяй Міхаіла Нікіфарава.
Падрабязней: www.ptushki.org/guide.html

**Бясплатныя курсы беларускай мовы і краязнаўства**

Заняткі будуць праходзіць кожны чацвер а 18-й гадзіне ў памяшканні раённай дзіцячай бібліятэкі імя Дубоўкі.
Кожны занятак будзе доўжыцца па дзве гадзіны – адна на вывучэнне беларускай мовы, другая будзе прысвечана гісторыі Паставаў. Праводзіць іх будуць настаўнікі па беларускай мове і пастаўскія краязнаўцы, такія як Ігар Пракаповіч, Людміла Сямёнас і Вадзім Шышко.
Заняткі бясплатныя, запрашаюцца ўсе ахвотныя.

**Восеньскія моўныя сустрэчы ў «Арт Сядзібе»**

Вінцук Вячорка і Пётра Садоўскі запрашаюць на чарговы цыкл моўных сустрэч у «Арт Сядзібе». Што гэтым разам? Будзем пісаць тэксты, чытаць беларускую прозу і вершы, шукаць моўныя пярліны.
Першая сустрэча адбудзецца ў сераду 18 верасня. Пачатак у 17.30. Вядзе лекцыю Пётра Садоўскі. Адрас: вул. Першамайская, 20 – 21 (асобны ўваход каля другога пад'езда).
Лекцыі будуць праходзіць на працягу верасня і кастрычніка кожную сераду. Уваход вольны. З пытаннямі і прапановамі звяртайцеся на тэлефон 8 (029) 782–88–81 ці на скрыню: artsiadziba@gmail.com .
Сэрыя лекцый «Моўныя сустрэчы» адбываецца ў межах агульнанацыянальнай кампаніі Асамблеі НДА «Зробім лепш!»
Падрабязней: http://artsiadziba.by/news/2013/09/12/mova-art-siadziba/ .

**Конкурс даследчых работ і метадычных распрацовак па тэме «Еўрапейскі саюз»**

Апошні тэрмін – 1 лістапада 2013 г.
ГА «Адукацыйны цэнтр «ПОСТ»» абвесціў конкурс даследчых работ па вывучэнні Еўрапейскага Саюза для старшакласнікаў і студэнтаў Беларусі, а таксама конкурс метадычных распрацовак па тэме «Еўрапейскі саюз» для педагогаў.
Заяўкі на конкурс прымаюцца да 1 лістапада 2013 г. Узнагароджанне пераможцаў пройдзе ў другой палове лістапада.
З усімі пытаннямі можна звяртацца на nastaunik@gmail.com.
Падрабязней: http://www.nastaunik-club.info/p/blog-page_3890.html .

**Конкурс «Беларускае LEGO: Пабудуй краіну, у якой будзеш жыць!»**

Апошні тэрмін – 20 лістапада 2013 г.
«Ліберальны клуб» запрашае да ўдзелу ў інтэлектуальным конкурсе «Беларускае LEGO: пабудуй краіну, у якой будзеш жыць!». Да ўдзелу запрашаюцца навучэнцы старэйшых класаў, каледжаў, тэхнікумаў і студэнты 1–3 курсаў ВНУ.
Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы і будуць запрошаныя на трохдзённую школу з удзелам вядомых у Беларусі і за мяжой навукоўцаў і экспертаў у галіне эканомікі, паліталогіі, міжнародных адносінаў.
Каб узяць удзел, неабходна напісаць эсэ аб'ёмам 1000 – 1500 слоў на адну з наступных тэмаў: Што такое рынкавыя рэформы? Ці справядлівыя рынкавыя рэформы? Ці гатовыя беларусы да свабоднага рынку? Калі не рынак, то што: ці ёсць альтэрнатывы рынкавым рэформам у Беларусі? З чаго пачынаць рынкавыя рэформы ў Беларусі? Як правесці рэформу сістэмы адукацыі (ці аховы здароўя)? Якой будзе Беларусь праз 20 год? – і даслаць на электронны адрас: liberalclub2008@gmail.com .